*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 8(116) ◈ 24 лютага 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***16 ЛЮТАГА ЛІТВА АДЗНАЧЫЛА 75-ГОДДЗЕ СВАЁЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ.*** *Ва ўрачыстасцях з беларускага боку бралі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч і старшыня парламенцкай Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Іван Цярэшка.*

●

**16 ЛЮТАГА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ.** На ім вызначаны даты склікання чарговых сесій беларускага парламента — 23 сакавіка і 18 мая. На працягу года Прэзідыумам будуць разгледжаны шматлікія пытанні, у тым ліку — ход выканання Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых моў на Беларусі. Як-ніяк, чацвёрты год пайшоў, а Закон мала хто выконвае.

●

***16 ЛЮТАГА ПАСЛЯ АБМЕНУ ДЫПЛАМАТЫЧНЫМІ НОТАМІ*** *паміж Міністэрствам замежных спраў Беларусі і пасольствам ЗША набыло сілу пагадненне аб гандлёвых адносінах паміж дзвюма краінамі. Цяпер РБ будзе мець рэжым найбольшага спрыяння ў гандлёвых адносінах з ЗША.*

●

**БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ НА ЧАЛЕ З ПЕРШЫМ НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ ВЯЧАСЛАВАМ КУЗНЯЦОВЫМ НАВЕДАЛА ЗША,** дзе сустракалася з прадстаўнікамі нафтапошукавых, здабываючых і перапрацоўваючых «чорнае золата» кампаній і абмеркавала ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва па пошуках і здабычы нафты на беларускай зямлі.

●

***ПРАМ'ЕР-МІНІСТР РАСІІ В. ЧАРНАМЫРДЗІН ПАДПІСАЎ ДАМОВУ,*** *якая тычыцца паставак газу ў Беларусь. У РБ будзе пастаўлена 16 млрд. кубаметраў расійскага газу без падаткаў на экспарт. Беларусь зможа зэканоміць 160 млрд. рублёў.*

●

**ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ ФЕДЭРАЦЫЯЙ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ І ФЕДЭРАЦЫЯЙ НЕЗАЛЕЖНЫХ ПРАФСАЮЗАЎ МАЛДОВЫ.** Адным з пунктаў дагавора прадугледжваецца арганізацыя аздараўлення і лячэння працоўных і дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

●

***У МЕНСКУ СТВОРАНЫ ФОНД САЦЫЯЛЬНЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ І ДАСЛЕДАВАННЯЎ ІМЯ БРАТОЎ ЛУЦКЕВІЧАЎ.*** *Заснавальнікамі Фонду сталі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», рэдакцыя газеты «ЛіМ», Рэспубліканскі навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны. Адна з першапачатковых задач Фонду — аднаўленне віленскага Беларускага музея.*

*Да 130-ых угодкаў паўстання К. Каліноўскага*



*І ў водбліску згасальнае заранкі*
*Апошнім промнем, як лязом нажа*
*Пайсці раллёю, мною узаранай*
*Для руні, невядомай і жаданай...*
*Пайсці да вас...*
*І да свайго крыжа.*

*У. КАРАТКЕВІЧ.*

## У ПАДНЯВОЛЛІ МАСКОЎСКІМ «У НАС НІЧОГА НЕ БУДЗЕ»

Сярод разнастайных гістарычных дакументаў, што засталіся ад паўстання 1863 года, асаблівае месца займаюць тыя, якія тады былі непасрэдна напісаны самімі паўстанцамі. На ўвазе ў першую чаргу маюцца маніфесты, дэкрэты, адозвы і праккламацыі паўстанцкіх улад, нелегальны перыядычны друк, тагачасная паўстанцкая публіцыстыка, якая дайшла ў рукапісах. Калі са згаданых дакументаў вылучыць тыя, што ўзніклі і распаўсюджваліся пераважна на тэрыторыі Беларусі, то атрымаецца своеасаблівы харанікальны летапіс вызваленчай барацьбы беларусаў у перыяд паўстання 1863 года. На старонках гэтага летапісу, як нідзе больш, адбіваецца вастрыня жорсткага адзінаборства з царызмам. Там адлюстраваны пазіцыя і тактыка розных палітычных груповак паўстанцаў, іх погляды на сродкі і шляхі дасягнення пастаўленых мэт. Таму пры аналізе напісанага праваднікамі паўстання 1863 года на Беларусі і ў Літве, нацыяна-

*(Заканчэнне на с. 6).*

## Неабальшавікі чыкацца не збіраюцца

Стар. 2

## Да грамадзян Рэспублікі Беларусь

25 Сакавіка — нацыянальнае свята Беларусі. У гэты дзень 75 гадоў назад у Менску была абвешчана незалежная, самастойная дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. Пасля доўгага панавання чужынцаў адрадзілася беларуская дзяржаўнасць. Гэта быў вынік самаахвярнага змагання лепшых сыноў нашае зямлі за шчасце і волю.

Гістарычныя ўмовы таго часу не дазволілі скарыстаць заваяванай перамогі. Але наш народ не скарыўся. Беларускія жаўнеры, слуцкія паўстанцы, змагары, якіх катавалі ў пастарунках, расстрэльвалі ў Курапатах, знішчалі ў гітлераўскіх вязніцах, адраджэнцы, якіх цкавалі і заносілі ў чорныя спісы «нацыяналістаў», сваёю мужнасцю і адданасцю Бацькаўшчыне набліжалі час вызвалення. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, абвяшчэнне незалежнасці ў жніўні 1991 г. — лагічны працяг гістарычных падзеяў, што адбыліся ў сакавіку 1918 г. Без іх не было б сёння ў свеце Рэспублікі Беларусь.

25 Сакавіка — святая дата ў нашай гісторыі. Арганізацыйны камітэт, створаны грамадскасцю Беларусі, заклікае ўсенародна адзначыць свята. Прапануем грамадскім арганізацыям, установам культуры, навукі, працоўным калектывам правесці ўрачыстыя сходы, вечарыны, навуковыя канферэнцыі, народныя шэсці, ускладанне кветак да памятных мясцінаў, да помнікаў нацыянальным дзеячам, выставы, канцэрты і іншыя мерапрыемствы, прысвечаныя 75-ай гадавіне адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Арганізацыйны камітэт лічыць сваім пачэсным абавязкам выступіць непасрэдным чыннікам святкавання ў сталіцы нашае дзяржавы.

Выказваем надзею, што свята 25 Сакавіка стане днём яднання беларускага народа, асэнсавання мінулага і згуртавання сілаў дзеля адраджэння нашае Бацькаўшчыны, якую Бог дараваў беларусам і за якую нам адказваць перад нашчадкамі і ўсім светам.

Жыве Беларусь!

Заяву падпісалі: БНФ «Адраджэньне», Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», ТБМ імя Францішка Скарыны, БСДГ, АДПБ, НДПБ, Згуртаванне беларускай шляхты, Беларускі фонд культуры, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Акадэмія навук Беларусі, Камісія БНФ па культуры і гісторыі, Саюз пісьменнікаў Беларусі, творчая суполка «Пагоня» Саюза мастакоў Беларусі, Саюз тэатральных дзеячаў, Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі, Кангрэгацыя Беларускі Эвангелічны Рэфармацкі Збор, газета «Культура», газета «Літаратура і мастацтва», часопіс «Спадчына», Управа культуры Менгарвыканкама, Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі, Саюз кампазітараў Беларусі, Таварыства Беларусь — Чэхія — Славакія, Беларускае краязнаўчае таварыства, Камісія па культуры Менгарсавета, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Акцыянернае таварыства «Кросны», фірма «Дайнова», «Выбранецкія шыхты», газета «Наша слова», Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ, Менскі гарадскі клуб «Спадчына», Беларуская каталіцкая грамада, Мартыралог Беларусі, Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Белдзяржуніверсітэт, Менскі гарадскі Савет народных дэпутатаў, Беларускае Праваслаўнае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, Беларуская сялянская грамада, Беларуская політэхнічная акадэмія, Задзіночаньне каталіцкае моладзі Беларусі.

# НЕАБАЛЬШАВІКІ ЧЫКАЦЦА НЕ ЗБІРАЮЦЦА

Ужо вядома: калі газеты, якімі запраўляе натхніцель неакамуністаў («новых» — па афарбоўцы, а па сутнасці яны ўсё тыя ж бальшавікі) «товарищ Чикин», ужываюць беларускае слова, добрага не чакай. Яно будзе ўпэцкана так, каб прыстойнаму чалавеку стала моташна. Свежы прыклад — публікацыі ў першым за сёлетні год выпуску газеты «Политика. Позиция. Прогноз», якая прэтэндуе на найвышэйшую неакамуністычную «умственность». Ужываюць слова «спадары» — і акунаюць яго ў бруд. Гэтак жа «вайскоўцы», «БНФ». Ці прозвішчы найбольш таленавітых і нацыянальна свядомых беларускіх паэтаў, пісьменнікаў. Усё абкладзена «гарнірам» з найсамейшай сацыяльнай поскудзі. Прыцягнута нават здарэнне ў электрычцы, «шедшей из Минска в западном (ну вядома ж) направлении», калі нейкія падонкі прадэманстравалі публічна сексуальны акт, а следам іхнія хаўруснікі пачалі збіраць з пасажыраў, пагражаючы пабоямі, грошы за «відовішча». Паведаміўшы пра такое паскудства ў «аналітычным» артыкуле, «П. П. П.» публікуе яшчэ і асобную інфармацыю — «Порнопредставление в электричке». Так і не паведаміўшы ўсё ж — а на якой мове падонкі вымагалі грошы? Ды яно і без тлумачэння можна здагадацца — на той самай, «інтэрнацыянальнай», а дакладней — на слэнгу бальшавіцкага ГУЛАГа.

Але гэта толькі «размінка». Чыкінскія кухары дэманструюць адметную прапагандысцкую разнастайнасць. Паспрабаваўшы выклікаць у чытачоў адмоўны рэфлекс упэцкваннем беларускіх слоў у сацыяльны бруд, яны знаходзяць яшчэ і, так бы мовіць, жывога носьбіта гэтай ненавіснай ім «мовы» (вось так, іранічна і ставячы гэтае слова ў двукоссі), які пагадзіўся з імі супрацоўнічаць, дэманструючы: вось ён, аценіце самі, падзівіцеся, на што здатны. Ну, а здатным член Саюза пісьменнікаў Валянцін Мыслівец аказаўся на трохкалонны лямант. З чаго і пачаў: «Суайчыннікі, браты і сёстры! Даруйце за ўрачысты стыль і тон. Звярнуцца да вашага сумлення, вашай будучыні і будучыні Рэспублікі Беларусь з папярэджаннем аб пагрозе ганебнай чумы мяне вымусіла(?) публікацыя ў незалежным (?) «Вячэрнім Мінску» пад назвай «У суфлёрах — гастралёры». Сэнс яе ў тым, што у наш беларускі дом нахабна і бессаромна лезуць амерыканскія супастаты...»

Спачатку такое ўражанне: аўтар абураецца ўчынкам «Вечернего Минска», які не толькі канчаткова выракся беларускай мовы, але і займаецца пераказам таго, што прыгатавалі кухары палітычных правакацый у газетах «Советская Россия» і «День». І толькі потым пачынаеш разумець, што выхаванец метаду сацыялістычнага рэалізму проста шыбуе ў накірунку, які яму падказала газета. А праз абзац-другі ўжо ўвогуле з ягонага лямanту амаль нічога не зразумела, акрамя таго, што ён такі сапраўды тых «супастатаў» угледзеў, калі падказалі, і, здаецца, люта зайздросціць Зянону Пазьняку, які і тут, на Беларусі, тысячы і тысячы прыхільнікаў займеў і «акуламі капіталізму» заўважаны.

А яшчэ спадар аўтар, відаць, вельмі спалохаўся, што беларусы возьмуць ды самі, нарэшце, выкажуцца шляхам усенароднага галасавання (рэферэндуму) — ці не варта перавыбраць Вярхоўны Савет, члены якога апошнім часам дружна галасуюць, здаецца, толькі за прывілеі. Ды не цягнуць з гэтым да той пары, калі чыноўнікі прыбяруць да рук апошнюю дзяржаўную маёмасць шляхам «прыхватызацыі». Дык на думку літаратара — аўтара «П.П.П.» — такое волевыяўленне ўсяго народа — гэта чамусьці «лжэдэмакратычная пятля». Значыць, маўчыце, людцы, і далей, чакайце, што вам перафарбаваныя партчыноўнікі загадаюць? Відаць, наш беларускі салавей камуністычнага спадзяецца: яго, улічваючы паслугі, не зачэпіць тое, што, па ўсім відаць, падрыхтавалі ўжо неакамуністы для нацыяналаў, калі поўнасцю легалізуюць сваю ўладу ды яшчэ адновяць і СССР. А мо, захапіўшыся чытаннем «Вечернего Минска», проста не заўважыў, што друкуе «П.П.П.» побач з ягоным палымяным зваротам да «братоў і сясцёр»?

А праграма падаецца наступная: па-першае, увесці паняцце «русские белорусы» для тых, хто размаўляе па-расійску. Вынайшлі, нарэшце, як называць! А для тых, хто шануе «матчыну мову» (двукоссі аўтаркі адпаведнага артыкула-праграмы ў «П.П.П.» — *Э. Я*), увесці паняцце «літвіны» і такім чынам канчаткова адсекчы носьбітаў нацыянальнай ідэі ад нейтральнай, як аўтарцы гэтага артыкула здаецца, народнай масы. Вылучаныя нацыяналы перастануць перашкаджаць «русским белорусам» и надалей ствараць «вышэйшую культуру», бо «измениться они не могут — это противоречит их психическому складу». Значыць, трэба заканадаўча адзяліць гэтую «меншасць», «чтоб осознала и перестала навязывать... русским белорусам своё миропонимание, свой язык, свою религию... Конечно,— з'едліва заўважае аўтарка «П.П.П.»,— куда как лестно называться нацией, а не меньшей группой (!) населения, да ещё рассредоточенной среди большинства (ну вось, вынайшлі новых яўрэяў! — *Э. Я.*). И разыгрывать из себя лидеров этой нации», якія нават Закон аб дзяржаўнасці «своей» мовы неяк здолелі «навязать». Выкарысталі, аказваецца, момант: «Из слабеющих рук КПСС инициативу подхватили литвины. Ещё бы! Почти вся потомственная интеллигенция — литвины... в смутное время не упустили шанс. Наши (!) неопытные парламентарии, в большинстве своём русские белорусы, боясь, как бы их не упрекнули (?) в коммунистическом ретроградстве, быстренько проголосовали за модный (?) Закон. Не задумались, сколь серьёзны подсунутые им вопросы о государственном языке, символах и т. д.»

А цяпер, значыць, вопыту набраліся і пачалі-такі думаць. З кожнай новай сесіяй Вярхоўнага Савета гэта ўсё прыкметней. Яскрава паказалі «наши» дэпутаты свой новы вопыт і калі адверглі ідэю ўсенароднага волевыяўлення — рэферэндуму. Выйшаў на трыбуну «русский белорус» (цікава, што і ён нейкі час спрабаваў гаварыць на «мове», відаць, хацеў паказацца інтэлігентам) — старшыня Пастаяннай камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў і, назваўшыся, магчыма, на ўсякі выпадак, «простым юристом», з цынізмам беспакаранасці ператварыў славеснай эквілібрыстыкай подпісы амаль паўмільёна дарослых беларусаў у крэмзанне нейкай «групкі» недарэк і экстрэмістаў, чаго ад'яго і чакала дэпутацкая большасць.

А следам ягоныя прыхільнікі-заказчыкі з жартачкамі і ўсмешкамі пераможцаў «засціснулі» тую «групку» (з паўмільёна працаўнікоў!) кнопкамі электроннага галасавання. Электроннымі кнопкамі, як прызнаваліся амерыканскія лётчыкі, што бамбілі В'етнам, аказваецца, вельмі лёгка і масавымі забойствамі займацца, бо ахвяр як быццам і няма.

Так што лямант супраць нейкай «ганебнай чумы» быў заказаны «литвину» В. Мысліўцу (бо на «мове» ж піша) зусім не дзеля таго, каб нейкага беларуса адгаварыць ад спробы самастойнага дзяржаўнага думання ды волевыяўлення. Тут варта ўспомніць, як бальшавікі некалі ўсчыналі «барацьбу» супроць нацдэмаў. Спачатку з дапамогай артыкулаў у газетах і сходаў «пралетарыяту» вылучылі «ворагаў народнай большасці» юрыдычна і сацыяльна. Потым нацкавалі на іх тых з «нацдэмаў», хто спадзяваўся шляхам паклёпу на іншых уратавацца асабіста. Чым справа скончылася — вядома. Цяпер неабальшавікі-эсэсэраўцы замест нацдэмаў вынайшлі для носьбітаў мовы і нацыянальнай свядомасці новае найменне. А потым, канчаткова, як ммы ўжо казалі, легалізаваўшы з дапамогай парламента ці іншым чынам уладу, заганяць у рэзервацыю? І калі іхнія папярэднікі ўсё ж пакінулі некалькі добра прыручаных «інтэлігентаў-ліцвінаў» дзеля камуфляжу — каб саджаць у прэзідыумы з'ездаў «победителей», паляпваць па плячы і нават даручаць казанне на «мове» ўступных фраз на адкрыцці сесій Вярхоўнага Савета, то сучасная, новая фармацыя бальшавікоў куды больш прагматычная і падобных гульняў з «нацыяналамі» хутчэй за ўсё не пажадае. І канешне ж не рэзервацыю неабальшавікі плануюць ствараць для «литвинов», як пакуль абвяшчаецца, а ўсё той жа ГУЛАГ. Каб і косці ў справу пайшлі — масціць новыя дарогі да карысных выкапняў на «Русском Севере». Так што радуйцеся «русские белорусы»: у такім разе спатрэбіцца зноў мноства салдат і вертухаяў.

Адно пакуль у гэтых задумках неабальшавікоў незразумела: як яны справяцца з мільёнамі тых, хто ў нас размаўляе на «трасянцы» ці ну ніяк не можа пазбавіцца цвёрдага «р», дзекання, ужывання «в» ды «ў» (кароткага) замест цвёрдага «л» у сярэдзіне слова і рознага падобнага іншага. Вось жа нават у Вярхоўным Савеце з ягонай перавагай «русских белорусов» нездарма ж «хто как хаціт, так і гаварыт». Прычым штука гэтая настолькі заразная, аказваецца, што яе падхопліваюць нават карэнныя расійцы, калі гадоў з пяць пражывуць на Беларусі. Ведаю адну такую інжынершу, якая піша даволі прыстойныя апавяданні на расійскай мове. Паехала неяк яна да родзічаў у Саратаў, а яе там паслухалі ды кажуць: «Аля, у тебя такой чудный белорусский акцент!» Яна з гэтага вельмі засмуцілася і прызналася, што цэлую ноч плакала. То якая ж процьма працы зваліцца на неабальшавікоў, каб ачысціць «русских белорусов» ад «ліцвінскага» акцэнту! Не менш дывізіі лагапедаў спатрэбіцца.

Але, відаць, неабальшавікі гэты праклятый «национальный вопрос», з якім так і не змаглі канчаткова справіцца іхнія папярэднікі, паспрабуюць вырашыць зноў «рэвалюцыйнымі» мерамі. Вось жа напісаў іхні новы Дзям'ян Бедны пад псеўданімам Русін у тым жа нумары «П.П.П.».

...Хватит
позора в довольствии малом...
локоть к локтю и — к ногтю
всех больных капиталом!

На «хваробу капіталам» некалі падазравалі і нацдэмаў. Знішчылі. але і цяпер чамусьці не ўсіх беларусаў прывучылі іграць на балалайцы ды жлукціць гарэлку. Нямала такіх, хто любіць і ўмее займацца гаспадараннем. А таму, пакуль не позна, давайце разбяромся ў сітуацыі вельмі сур'ёзна, нейчыя таварышы, спадары, панове, а галоўнае — грамадзяне.

Эрнэст ЯЛУГІН.

Наша слова, № 8, 1993 г.

## дзе і што?

### Пакуль што стабільна коцімся ўніз

**Па звестках, якія надрукаваны ў амерыканскім часопісе «Тайм», Рэспубліка Беларусь у 1992 годзе па валавым нацыянальным прыбытку на душу насельніцтва апярэджвае на 1% Латвію, на 6% Расію і Эстонію, на 20—30 % Украіну, Літву і Казахстан, не гаворачы ўжо пра астатнія краіны былой савецкай імперыі. Спад вытворчасці ў мінулым годзе складаў каля 10 %. Па ацэнках замежных экспертаў, Беларусь і Туркменія ўзначальваюць спіс самых стабільных у палітычных адносінах посткамуністычных краін. Ды ўсё ж і на гэты год чакаецца скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці на 15 % і паніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва да 75 % узроўню канца 1991 года.**

### Пра культуру дбаюць, як і раней

**Вярхоўны Савет Беларусі зацвердзіў бюджэт краіны на 1993 г. Выдаткі складаюць больш за 869 мільярдаў рублёў. На ахову здароўя выдзяляецца 2,6 % бюджэту, на навуку — 2,2 %, на культуру і сродкі масавай інфармацыі — 1,47 %.**

### «Свабоду» зноў спрабуюць засудзіць

**Не паспеў грамадзянін Г. Данілаў пасля суда «выбіць» 100 тысяч рублёў з газеты «Свабода», як пачаўся яшчэ адзін суд. На гэты раз з газетай судзіцца генерал міліцыі Мечыслаў Грыб — старшыня Камісіі ВС па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю. Як паведамляе «Свабода» (1993, № 1—2), генерал лічыць, што ў артыкуле пра карупцыю («Пятая калёна» А. Старыкевіча, «Свабода», 1992, № 10—11) газета абразіла ягоны «гонар і годнасць як грамадзяніна, як народнага дэпутата».**

### А ў нас парушальнікаў няма?

**Пракуратура Літвы ўзбудзіла некалькі крымінальных спраў аб парушэнні Закона «Аб дзяржаўнай мове». У Беларусі Закон аб мовах, які быў прыняты тры гады назад, амаль не дзейнічае, і ніхто за гэта не адказвае.**

*У суполках ТБМ: насустрач з'езду*

# РАСЦЕ АЎТАРЫТЭТ ТАВАРЫСТВА

***Нататкі са справаздачна-выбарчай канферэнцыі ў Баранавічах***

Увечары 28 студзеня зала пасяджэнняў будынка райвыканкама г. Баранавічы сабрала мясцовых актывістаў ТБМ. Тут адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Баранавіцкага аддзялення таварыства. У зале сабраліся людзі, заклапочаныя лёсам роднай беларускай культуры і мовы.

Работа канферэнцыі пачалася малітвай «Божа Усемагутны! Адхілі напасці ад Бацькаўшчыны нашай, Беларусі...» Са справаздачай выступіў старшыня гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны М. Я. Бернат. Прамоўца прывёў выказванне слаўнага сына нашай зямлі Сяргея Палуяна: «Нам у першую чаргу трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе... асобнае нацыянальнае жыццё, бо асобная мова — гэта і ёсць форма нацыянальнай асобнасці. Толькі адрадзіўшы мову, мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух». М. Бернат падкрэсліў, што гэту думку С. Палуян выказаў яшчэ 81 год назад. «Сумна і страшна,— сказаў прамоўца, — што за столькі часу мы так і не змаглі выканаць гэты запавет. Хто вінаваты ў гэтым? Кажу адназначна: дзяржава. Але якая дзяржава? Беларуская? Не! Бо каб яна была беларускай, то ніколі не аддала б на глумленне беларускую мову. Значыць, гэта была не беларуская дзяржава, а проста адміністрацыйна-тэрытарыяльная кантора метраполіі». Далей спадар Міхась Бернат прывёў словы беларускага гісторыка і пісьменніка Міколы Ермаловіча: «У дзвюх рэчах асабліва заўзята дзейнічалі заваёўнікі: у аплёўванні нашай мовы і скажэнні нашай гісторыі. І гэта зразумела: кожная мова і гісторыя — асабліва красамоўныя сведчанні нацыянальнай самабытнасці... Але калі мову нельга вынішчыць, то яе можна зганьбіць і да такой ступені, каб і сам народ яе сароме́ўся ўжываць і цураўся».

Прамоўца згадаў, у прыватнасці, колькі чынілася перашкод з боку ўлад пры стварэнні Баранавіцкага аддзялення ТБМ: сябрам забараняялі збірацца ў гарадскім Доме культуры, доўга не адводзілі ТБМ прыдатнага памяшкання, не рэгістравалі таварыства, не дазвалялі мець свой банкаўскі рахунак і г. д.

Тым не менш, як адзначыў сп. М. Бернат, аўтарытэт ТБМ у Баранавічах мацнее. Сёння ў горадзе працуе 21 суполка, куды ўваходзіць некалькі соцень чалавек. Вядома, для горада, насельніцтва якога перавышае 200 тысяч, гэта мала. І ўсё ж радуе тое, што шэрагі сяброў ТБМ няўхільна растуць, а яго дзейнасць адыгрывае ўсё больш прыкметную ролю ў культурным і грамадскім жыцці горада — на вёсцы суполкі працуюць усё яшчэ слаба. Баранавіцкае аддзяленне ТБМ, як зазначыў сп.

Бернат, арганізавала лекцыі вядомых навукоўцаў М. Ткачова, М. Чарняўскага, А. Лойкі, дыспут аб праблемах нацыянальнага адраджэння, якія адбыўся ў Доме культуры, святкаванне «Дзядаў» у горадзе. Ад таварыства вылучаны і кандыдаты ў дэпутаты гарадскога і абласнога Саветаў (Я. Кійко і С. Гоўша). ТБМ падтрымлівае сувязі з суайчыннікамі, якія жывуць за межамі Беларусі (у Расіі, Казахстане, Прыбалтыцы, на Беласточчыне). Шмат энергіі і сродкаў было патрачана на выпуск штомесячнай газеты ТБМ «Баранавіцкае слова» (выйшла 7 нумароў, рэдактар А. Блінкоўскі). На жаль, далей працягваць выданне газеты немагчыма — не хапае сродкаў.

Завяршаючы справаздачу, прамоўца адзначыў, што многія прамысловыя прадпрыемствы горада пералічваюць грашовыя ахвяраванні на культурна-асветную працу таварыства. Прыкметна, што суполкі ТБМ на такіх прадпрыемствах карыстаюцца падтрымкай сваёй адміністрацыі, яны разам рупяцца дзеля пашырэння ўжывання роднай мовы непасрэдна на вытворчасці. Добрым прыкладам тут можа служыць Баранавіцкая абутковая вопытна-эксперыментальная фабрыка (дырэктар сп. Л. Цішкоў, працуе звыш 700 чалавек), дзе пячаткі, шыльды, паказальнікі, этыкеткі на прадукцыю выкананы па-беларуску. З трыбуны прагучаў таксама аналіз фінансава-гаспадарчай дзейнасці аддзялення ТБМ за справаздачны перыяд. Адзначалася, у прыватнасці, што з мэтай адраджэння народных рамёстваў аддзяленне ТБМ будуе ўласны керамічны цэх у вёсцы Русіны. Аддзяленне мае свой кіёск па продажы сувеніраў і беларускай літаратуры.

Далей разгарнуліся спрэчкі. Спынімся на некаторых выступленнях. Намеснік старшыні Баранавіцкай рады ТБМ М. Кадыка (скарбнік аддзялення) спыніўся на фактах, калі настаўнікі нашай мовы і літаратуры за дзявярыма сваёй школы забываюцца на роднае слова, пераходзяць на трасянку, а то і зусім — на «великий и могучий». Ён жа спытаў: «Што гэта за настаўнікі, калі яны не чытаюць і не выпісваюць «Наша слова»?»

Настаўнік В. Дубейка закрануў тэарэтычныя праблемы старажытнай гісторыі Беларусі, падкрэсліў, што іх слабая распрацаванасць стрымлівае пашырэнне ведаў аб мінулым нашай Бацькаўшчыны. Настаўнік гісторыі В. Сірыца падрабязна расказаў аб рабоце школьнага краязнаўчага гуртка, якім ён не першы год кіруе. А скончыў выступленне так: «Калі мяне хтосьці з некаторым здзіўленнем пытае, чаму я размаўляю па-беларуску, то я адказваю: "Я ж беларус!"»

Цікавасць залы выклікала выступленне намесніка камандзіра злучэння па выхаваўчай рабоце маёра В. Бобруса (дэлегацыя вайскоўцаў прысутнічала на канферэнцыі). Афіцэр запрасіў мясцовых актывістаў ТБМ часцей наведваць вайскоўцаў, аказваць ім пасільную дапамогу ў вывучэнні мовы, бо большасць афіцэраў і прапаршчыкаў злучэння нарадзілася, вучылася і пачынала служыць па-за межамі Беларусі.

Канферэнцыя зноў абрала старшынёй Баранавіцкага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны спадара М. Я. Берната, выбрала сяброў рады і дэлегата на III з'езд ТБМ. У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі супрацоўнікі сакратарыята ТБМ сп. А. Ф. Багдановіч і В. А. Вільтоўскі.

**Наш спецыяльны карэспандэнт.**

## СЛОВА КАЛІНОЎСКАГА

*«Дзяцюкі! Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што наша мужыцкая рука здатна толькі да сахі,— цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядлівую як Бог на небе. О, загрміць наша праўда і, як маланка пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўдай».*

**«Мужыцкая праўда», 1682, № 1.**

*«Але калі... пайшоў лад маскоўскі дык і ўсё зрабілася па-чартоўску. Стаў зараз Маскаль свой парадак уводзіць у нашым краі і кажа: Мужык давай рэкрута, Мужык давай падаткі... Дык якая ж тут ужо справядлівасць... калі дзяруць астатнюю шкуру, б'юць і плакаць не даюць! Ачунялі нашы мужыкі, угледзелі, што кепска, ды давай бунтавацца пад Касцюшкаю, а Касцюшка і кажа: калі мужыкі хочуць ужо самі бараніць сваве землі, дык ныхай жа не служаць паншчыны ды і не плоцяць у казну аброку за зямлю... Для таго і пабілі Маскалі Касцюшку, бо каб мужыкі ўсе разам былі збунтаваліся і ўхапіліся за сякеры, нажы і косы, дык Маскаль мусіў бы прапасці беззваротна і мы на век вякоў былі б ужо вольныя».*

**«Мужыцкая праўда», 1862, № 2.**

*«Жывучы пад урадам Маскоўскім кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць... Маскаль жа хітры, ён, Дзяцюкі, хоча, каб (нам) не даці нічога... Але не на доўга ўдасца ім крудельства, бо... нам не маніхвестаў, а вольнасці патрэба — і то вольнасці не такой, якую нам Цар хоча даці, але якую мы самі мужыкі паміж сабою зробім. А для таго, Дзяцюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці цяпер ужо талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім яго спосабам мужык яе дастаць можа. Толькі, дзяцюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то і з намі ваявацi трудна, бо боская моц вялікая і народу многа».*

**«Мужыцкая праўда», 1862, № 3.**

*«Урад маскоўскі, як той ліхі пан, ...народ глуміць, каб як найбольш грошай ў кішэнь яго дасталося. Урад маскоўскі, Дзяцюкі, не так робіць, як рабіці трэба, не думае, каб палепшыць народу, а вымысляе адно спосабы, каб абабраці і зусім людзей згуміці».*

**«Мужыцкая праўда», 1862, № 4.**

## Вайсковы гарадок Печы

**Сябрына ТБМ імя Ф. Скарыны вайсковага гарадка Печы налічвае 10 чалавек.**

**Яе ўзначальвае Таццяна Ліс. Сябрына супрацоўнічае з арганізацыяй «афганцаў» у Печах, найбольш актыўна — з Барысаўскай суполкай БЗВ. За кошт сябрыны ў бібліятэку Печынскай школы перададзены кнігі і брашуры гісторыка-патрыятычнага зместу: у 1991 г.— 13, у 1992 — 9, а ў бібліятэку Дома афіцэраў — 11. У 1992 годзе была выпісана газета «Наша слова» ў гэтыя ж бібліятэкі. Намаганнямі сяброў ТБМ у школе адкрыты беларускамоўны клас. Грошы ад сяброўскіх складак ідуць на набыццё патрэбнай літаратуры. Да гэтага часу ў кніжным аддзеле мясцовай крамы няма беларускамоўных кніжак, хаця на канферэнцыі ТБМ 15 мая 1992 года ставілася пытанне, а спадар Бутэвіч пазначыў яго сабе.**

*Сябра сябрыны ТБМ у Печах М. ВАРАНЕЦ.*

## Зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Удзельнікі канферэнцыі Баранавіцкага аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны занепакоеныя тым, што апошнім часам антыбеларускімі і антыдзяржаўнымі сіламі вядзецца дзейнасць, накіраваная на рэвізію дзяржаўных законаў і нашай нацыянальнай сімволікі.**

**Мы лічым, што пад сцягам ідэі дзяржаўнага двухмоўя распачата тонкая, далёка прадуманая акцыя супраць адраджэння нацыянальнай культуры, самабытнасці нашага народа, а гэта значыць, супраць нашай дзяржаўнасці.**

**Заклікаем Прэзідыум і Камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны зрабіць неабходныя захады, каб замацаваць у новай канстытуцыі статус законаў, якія датычаць дзяржаўнага суверэнітэту і нацыянальнага Адраджэння. У першую чаргу маецца на ўвазе замацаванне ў новай Канстытуцыі адзінай дзяржаўнай мовы — беларускай.**

**Прынята аднагалосна на канферэнцыі 18 студзеня 1993 года.**

## Каб камп'ютэры «загаварылі» па-беларуску

Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны паведамляе пра стварэнне і рэгістрацыю ў складзе ТБМ калектыўнай сябрыны «Літара».

Асноўная задача КС «Літара» — дапамагчы ўсім, хто жадае працаваць на персанальным камп'ютэры на беларускай мове. Гэта будзе ажыццяўляцца ў наступных формах дзейнасці:

— апаратная і праграмная беларусіфікацыя камп'ютэраў, прынтэраў, іншай аргтэхнікі;

— пераклад на беларускую мову сусветна вядомых праграм;

— стварэнне беларускамоўных праграм (тэкставыя рэдактары, перакладчыкі з беларускай на любыя мовы і наадварот, спецыяльныя праграмы для вытворчасці, вучэбныя праграмы);

— даследаванне вопыту карыстальнікаў камп'ютэраў дзеля аптымізацыі ўмоў працы на беларускай мове;

— навучанне працы з персанальным камп'ютэрам на беларускай мове;

— развіццё сувязей паміж праграмістамі і карыстальнікамі, якія працуюць на беларускай мове ў РБ і за яе межамі.

КС «Літара» супрацоўнічае як з фізічнымі асобамі, так і з установамі.

Усіх асоб, якія зацікаўлены ў КС «Літара», запрашаем звяртацца з прапановамі па адрасу: 220101, г. Менск, абанентная скрыня № 393.

**В. АНТОНАЎ.**

## Дабрачынныя ўзносы ў фонд ТБМ

Напярэдадні Каляд у ТБМ завітаў сябра нашага Таварыства, сталічны прадпрымальнік сп. Павел Дзмітрук. Госць пацікавіўся практычнай работай ТБМ, набыў выданні, выпушчаныя з удзелам Таварыства, сувеніры. Затым Павел Мікалаевіч папрасіў прыняць на карысць ТБМ дабрачынны ўзнос у суме 20 тысяч рублёў. «Гэтыя грошы,— сказаў ён,— я ахвярую на развіццё выдавецкай дзейнасці, каб больш выходзіла літаратуры, патрэбнай прыхільнікам беларускага Адраджэння».

Нагадаем, што ў мінулым больш сціплыя, але ад сэрца ахвяраванні ў фонд ТБМ зрабілі некаторыя прадпрыемствы і ўстановы, шмат грамадзян. Толькі ў канцы мінулага года на рахунак Таварыства паступілі дабрачынныя ўзносы ад Менскага вопытнага завода металаканструкцый, ад сталічнага холадакамбіната, ад акадэміка Радзіма Гарэцкага (1700 рублёў за публікацыю ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва»), ад спадароў І. Жытко, М. Сідарэвіча, спадарыні І. Шаблоўскай, ад Гарадоцкай раённай арганізацыі ТБМ.

Ужо ў гэтым годзе на рахунак ТБМ паступілі дабрачынныя ўзносы ад таварыства **«Кніга»** (50 тыс. рублёў) і ад прамыслова-вытворчага **прадпрыемства** «Дайджэст», якое ўзначальвае пісьменнік Анатоль Кудраўцаў (70 тыс. рублёў).

Усе ахвяраванні нам аднолькава дарагія. І не толькі ў якасці грашовай падтрымкі, а, перш-наперш, як праяўленне свядомага чалавечага клопату пра адраджэнне роднай бацькоўскай мовы. Для тых, хто пажадае матэрыяльна падтрымаць ТБМ імя Ф. Скарыны, нагадаем наш разліковы рахунак: № 700510 у Менскім гарадскім аддзяленні Белбізнесбанка.

**В. ВІЛЬТОЎСКІ.**

Г. НЯМІГА

# ВУЧЫЦЦА ТРЭБА БЫЛО

*(Заканчэнне. Пачатак у № 7).*

У вольны час ад заняткаў збывалі, што маглі і мелі, на чорным рынку, а некаторыя навучыліся былі дамовым спосабам у гаршках рабіць самагонку, літар якой можна было прадаць за 18-20 акупацыйных марак. Вясковыя настаўнікі ў Менскай акрузе былі ў крыху лепшым стане. Яны, апрача грашовага заробку, атрымоўвалі па 6 фунтаў на сябе ды па 5 фунтаў на ўтрыманцаў мукі-мяшанкі жытня-ячменна-аўсянай. Шмат хто меў свае агароды, курэй, парасят, а нават каровы або атрымоўваў малако і сёе-тое з былой калгаснай маёмасці, дзе яна яшчэ была не падзелена. Пры падзеле калгаснай маёмасці кіраўнікі школаў паклапаціліся, каб атрымаць даволі значныя зямельныя школьныя дзялянкі, на якіх усе працаўнікі школы маглі зрабіць сабе агароды, а нават пасеяць збожжа ці пасадзіць бульбу. Месцамі ўдавалася здабыць ад былых калгасаў або праз павятовую ўправу насенне.

Нягледзячы на гэтакія ўмовы, мала хто з настаўнікаў пакінуў школу. Бальшыня аддалася самаахвярнай працы. Таму ўва ўсіх паветах, гарадах і мястэчках, хоць і не ўсюды адначасна, але школьны навучальны год восенню 1941 г. распачаўся.

Гэтак у разбураным і знішчаным Менску, дзе ацалелыя грамадскія будынкі (універсітэцкія, школьныя, урадавыя) былі занятыя пад шпіталі, войскам ды нямецкімі цывільнымі ўладамі, гарадскому аддзелу асветы пры Менскай гарадской управе ўдалося здабыць неабходныя будынкі ды ў кастрычніку 1941 г. урухоміць 12 народных школаў — на 6000 вучняў (насельніцтва Менска з даваенных каля 400 000 зменшылася да 100 000 жыхароў).

Галоўны школьны інспектарат стараўся, дзе было магчыма, забяспечыць калі не вучняў, то хоць настаўнікаў часткова дапаможнай літаратурай, што захавалася была на складах беларускіх выдавецтваў у Вільні, як «Нарысы беларускае літаратуры» Гарэцкага, крытычныя працы А. Навіны і др., ды ў пачатку школьнага года паспеў яшчэ апрацаваць і выдаць схематычную праграму і навучальны план для пачатковых школаў. Ніякіх падручнікаў выдаць не было магчымасці. Даводзілася карыстацца старымі савецкімі ды польскімі падручнікамі.

З прызначэннем за наглядчыка школьных справаў пры генеральным камісарыяце Беларусі немца Сівіцы выйшла распараджэнне пра забарону карыстання даваеннымі савецкімі і польскімі падручнікамі і дапаможнікамі. Было загадана ў вызначаным тэрміне сабраць усё ды адвезці і здаць у павятовыя, гарадскія і мястэчковыя аддзелы асветы.

Спрытнейшыя кіраўнікі школаў фармальна загад выканалі, але пакінулі дзеля прыватнага карыстання настаўнікаў як дапаможна-даведны матэрыял самыя неабходныя падручнікі. Іншыя ж, больш палахлівыя, не пакідалі нічога, а былі і такія, што ў страху заладоўвалі ўсё, нават геаграфічныя карты і глобусы, ды везлі ў павет. Школьныя інспектары асцярожна, каб не паддацца правакацыі, каму маглі, то паяснялі, што настаўнік у сваёй працы можа карыстацца ўсякімі дапаможнікамі.

Такім парадкам, школы вымушаны былі карыстацца выключна вербальным спосабам навучання. Не заўсёды можна было дыктаваць канспекты, не хапала на ўсіх вучняў сшыткаў, алавікоў. Каб дапамагчы школам, галоўны школьны інспектарат пачаў выдаваць раз у месяц спецыяльны часопіс «Беларуская школа». Першы нумар выйшаў у лютым 1942 г. і складаўся з двух частак: для настаўнікаў і для вучняў памерам 16 бачынаў кожная частка. Каштаваў ён адзін рубель за частку. Другі нумар «Беларускае школы» ўжо меў 16 бачынаў настаўніцкае часткі і 32 бачыны вучнёўскай. Апрача гэтага, пры галоўным школьным інспектараце працавала беларуская навукова-тэрміналагічная камісія, якая да паловы 1942 г. ужо мела апрацаваны спіс матэматычнае тэрміналогіі ды рассылала ў школы.

Канец навучальнага 1941/42 года ў беларускіх школах генеральнага камісарыята Беларусі галоўны школьны інспектарат быў вызначыў на 20.VI. 1942 г. Ад 22.VI.1942 г. у школах, што працавалі не менш 125 дзён і выканалі праграму не менш як на 75 %, адбываліся экзамены ў IV і VII класах; у тых школах, што не адпавядалі гэтым вымаганням, экзаменаў і пераводаў з класа ў клас не было.

Апрача школаў, галоўнаму школьнаму інспектарату разам з БНС ды гарадскімі ўправамі давялося заняцца арганізацыяй ды ўтрыманнем дзіцячых дамоў для вялікай колькасці дзяцей, што страцілі бацькоў і сваякоў у ходзе ваенных падзеяў. Толькі ў Менску было створана 8 дзіцячых дамоў, пры якіх існавалі школы, дзе навучалася 750 дзяцей.

Ад самага пачатку ўтварэння беларускіх самаўрадаў і органаў народнае асветы ў акупаванай немцамі Беларусі не спыняліся ходанні перад уладамі аб пашырэнні асветніцкае працы, уключна да вышэйшай асветы. Акупацыйныя ўлады не пярэчылі арганізаванню пачатковага школьніцтва, але вельмі неахвотна давалі дазвол на адчыненне сярэдніх школаў, а пра вышэйшую школу не хацелі і гаварыць, спасылаючыся на цяжкасці ваеннага часу. Крыху лягчэй было з дазволам на адчыненне сярэдняга тыпу прафесійна-рамесніцкіх школаў. Не ў інтарэсах акупанта было даваць магчымасць беларускай моладзі здабываць вышэйшую асвету — ім патрэбныя былі «унтэрмэншы» — работнікі, што маглі б справіцца з не вельмі скамплікаванымі абавязкамі простых выканаўцаў тых ці іншых работ у прадпрыемствах, пастаўленых на абслугоўванне патрэбаў вайны, а пазней, у выпадку перамогі,— на адбудове знішчаных гарадоў і прамысловасці ў Нямеччыне.

У той жа самы час немцы патрабавалі шмат звычайных сельскагаспадарчых работнікаў, і таму, заміж дазваляць адчыняць сярэднія ці вышэйшыя школы, яны разгарнулі ўзмоцненую акцыю вярбоўкі моладзі на работы ў Нямеччыну, пачаткова добраахвотнікаў, але калі выявілася, што такіх няшмат, то і ў прымусовым парадку. Вызначаліся адпаведныя колькасныя нормы паветам і валасцям на адпраўку ў Нямеччыну, праводзіліся звычайныя аблавы ў публічных месцах гарадоў і сельскіх мясцовасцяў.

Беларускі нацыянальны актыў аднак не здаваўся, налягаў, і там-сям удавалася адваяваць некаторыя пазіцыі. Адваёвы тыя даваліся не заўсёды без ахвяраў. Ахвярай самааддандай дзейнасці для дабра беларускага народа стаўся і галоўны школьны інспектар кс. В. Гадлеўскі. Яго перш адсунулі ад працы ў інспектарацe, а перад Калядамі 1942 г. арыштавалі і замардавалі ў гестапа. Кс. В. Гадлеўскі адначасна з школьнай дзейнасцю, а часта і пры ейнай дапамозе, вёў арганізацыйную працу ў нелегальнай беларускай нацыянальнай антыфашысцкай і антыкамуністычнай арганізацыі «Беларускі народны фронт».

Дзеля ўстанаўлення адзінства школьнае працы ладзіліся настаўніцкія канферэнцыі. Гэткія канферэнцыі адбыліся паміж 9 і 31 студзеня 1942 г. у Менску ды ўва ўсіх паветах Лідскае акругі. Аддзелы народнае асветы супольна з камітэтамі БНС побач з разгортваннем школьнае сеткі стараліся выкарыстоўваць усялякія магчымасці, каб арганізаваць культурнае жыццё наогул (хоры, самадзейныя драматычныя гурткі і пад.). Шмат дапамагала ў гэтым беларуская нацыянальная прэса.

Беручы храналагічна, сетка беларускіх школаў развівалася наступна: 1941 г.— на 15.XII.1941 г. было ўсяго каля 5000 пачатковых школаў.

**1942 год**

Слуцкая акруга — 344 нар. школы,

Ганцавіцкая акруга — 98 нар. школаў, 197 настаўн., 9970 вучняў.

Берасцейская акруга — 143 нар. школы, 370 настаўн., 5981 вучань (толькі 2 паветы пад цывільнай уладай).

Баранавіцкая акруга — 425 нар. школаў, 1226 настаўн., 53 612 вучняў.

Наваградская акруга — 307 нар. школаў, 751 настаўн., 31 197 вучняў.

Слонімская акруга — 217 нар. школаў, 496 настаўн., 25 380 вучняў.

Лідская акруга — 405 нар. школаў, 596 настаўн., 25 319 вучняў.

Вілейская акруга — 420 нар. школаў, 974 настаўн., 40 116 вучняў.

Глыбоцкая акруга — 484 нар. школы, 954 настаўн., 43466 вучняў.

(Глыбоцкая акруга арганізавалася толькі ў чэрвені 1942 г.).

Менская акруга — 642 нар. школы, 2964 настаўн., 71 430 вучняў.

Менск — 14 нар. школаў, 285 настаўн., 7200 вучняў.

Агулам: 3499 нар. школаў, 11 000 настаўн., 853 602 вучняў.

Апрача гэтага, у Баранавічах і Нясвіжы працавалі шасцімесячныя курсы, дзе навучалася больш за 400 слухачоў.

Беларускія пачатковыя і сярэднія школы арганізоўваліся не толькі ў генеральным камісарыяце Беларусі, але і на ўсёй тэрыторыі краю, дзе толькі былі настаўніцкія сілы ды насельніцтву ўдавалася знайсці адпаведныя памяшканні ды здабыць дазвол на адчыненне школаў. Гэтак, ужо ў 1941 г., у былой Латвіі працавалі беларускія пачатковыя школы ў Дзвіншчыне, Рэжыцкім і Люцынскім паветах, беларуская гімназія ў Індры (Бальбінава), а ў Рызе — 3 беларускія шасцікласныя школы. У пачатку 1943 г. арганізаваліся беларускія школы ў Летуве, генеральным камісарыяце Украіны (Берасцейшчына), Гарадзеншчыне і Беласточчыне (Прусы). У Летуве было 350 беларускіх народных школаў, гімназія і настаўніцкая семінарыя ў Вільні.

На абшарах, падпарадкаваных нямецкім вайсковым уладам, былі беларускія школы ў Аршаншчыне і Віцебшчыне — 15 школаў, Гомелі і Гомельшчыне — 18 гарадскіх і 50 вясковых школаў, Бабруйшчыне — 407 школаў, з іх 299 пачатковых і 108 сямігадовых, дзе працавалі 2082 настаўнікі, з іх толькі 221 асоба мела няскончаную сярэднюю асвету. У гор. Быхаве была адна пачатковая школа і 2 сямігодкі, а ў павеце — 12 пачатковых школаў. У Чашніках — 20 народных школаў, у Касцюковіцкім раёне Магілёўшчыны — 85 школаў. У 1942/43 навучальным годзе ў Гомельшчыне налічвалася 357 школаў з 57 000 вучняў і 419 настаўнікамі.

Разбураны горад Менск у гэтым часе меў 16 пачатковых школаў.

**Сярэднія і прафесійныя школы**

Ад 1.II.1942 г. у Смаргонях пачала працаваць гандлёвая школа (2 класы, 57 вучняў). У Івянцы была рамесніцкая школа з аддзеламі сталярскім, кавальска-слясарна-бляхарскім, шавецкім і кравецкім (для хлапцоў і дзяўчат) на 115 вучняў, пры школе быў інтэрнат. У Наваградку была настаўніцкая семінарыя, а ў Глыбокім, Паставах і Браславе шасцімесячныя настаўніцкія курсы на 208 студэнтаў. Былі настаўніцкія семінарыі таксама ў Вілейцы і Нясвіжы. У Маладзечне працавала гандлёва-адміністрацыйная школа з 1326 вучнямі і музычная школа — 44 вучні. Валожын меў гандлёвую школу на 137 вучняў. Касцяневіцкая сельскагаспадарчая школа мела 85 вучняў.

У Баранавічах было колькі прафесійных школаў, а менавіта: трохмесячныя арганізацыйна-бухгалтарскія курсы — каля 560 слухачоў, трохгадовая медычная школа з аддзеламі медычных сёстраў, акушэрства, фармацыі і фельчарскі; трохгадовая дарожна-будаўнічая школа ды чатырохгадовая адміністрацыйна-гандлёвая.

У Марына-Горцы (Меншчына) працавала гімназія і сельскагаспадарчая сярэдняя школа, у Горы-Горках — землеробская школа, у Менску — прагімназія, у Бабруйску — музычная школа, а ў Магілёве — медычны інстытут, пачаткова адно адноўлены з перадваеннага часу III і IV курсы на 200 студэнтаў.

Як вынікае з статыстычных дадзеных, асветніцкая праца не замерла нават у неспрыяльны ваенна-акупацыйны перыяд у краі. Наадварот, беларускай інтэлігенцыі пры шырокай падтрымцы насельніцтва ўдалося стварыць, утрымоўваць і пашыраць школьныя ўстановы. Умела выкарыстоўвалася тая акалічнасць, што акупант моцна завяз у вайне і фізічна не мог абсадзіць усе аб'екты грамадскага жыцця ў занятым краі сваімі камісарамі. Асветная дзялянка абыходзілася амаль без іх. Дырэктары школаў і павятовыя школьныя інспектары працавалі цалкам самастойна. Толькі ў гэбітах (акругах) былі нямецкія «фюрэры», якім былі падначаленыя акруговыя школьныя інспектары, але яны не мелі амаль ніякага доступу да школаў. Былі яны адно перадавальнікамі розных распараджэнняў у паветы ды збіралі статыстычныя весткі пра колькасць школаў, настаўнікаў і вучняў у сваіх акругах.

Пакуль фронт даўжэйшы час трымаўся за Смаленскам, школьная сетка ўвесь час пашыралася, але росту і захаванню здабытых пазіцыяў шмат школы прынесла ненармальнае становішча, калі, апрача чужынецкай акупацыі, насельніцтва цярпела яшчэ дадаткова ад партызаншчыны — савецкай і польскай. Гэтыя і другія часта рабілі налёты на школы, тэрарызавалі настаўнікаў і дырэктараў школаў, змушаючы зачыняць школы ды ісці разам з імі ў лясы, а часамі і мардавалі за г. зв. «супрацоўніцтва» з немцамі, хоць, як ведама, школьная праца нічога супольнага з тым супрацоўніцтвам не мела. У сапраўднасці ранейшым акупантам не падабалася, што моладзь у школах пачала ўзгадоўвацца ў беларуска-нацыянальным духу, а не паводле іхніх установак.

Найцяжэйшы быў 1943/44 навучальны год, які пачаўся ў вельмі неспрыяльных абставінах, калі пад напорам Савецкае Арміі немцы вымушаныя былі адступаць, палячы і нішчачы па дарозе ўсё, што паспявалі. Зачыняліся і разбураліся школы ізноў.

Пад весну 1944 г. было не да пашырэння, а нават утрымання існуючых школаў. Раз'юшаныя акупанты выпальвалі вёскі, мястэчкі і цэлыя раёны, прыкладам Лагойскі на Меншчыне. Улетку 1944 г. уся Беларусь была ізноў занятая ранейшым акупантам — бальшавікамі, якія пачалі аднаўляць свае даўнейшыя парадкі.

*Вайскоўцам пра родную мову*

## УРОК ПЯТЫ

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы, правільна вымаўляючы гук **ч.**

| | |
|---|---|
| пачысціць | задача |
| забяспечыць | начальнік |
| улічыць | час |
| практычны | часць |
| значны | вучылішча |
| падначалены | вучэнне |
| прызначаны | лічба |

2. Прачытайце верш Пімена Панчанкі, напісаны ў 1942 годзе, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

### Краіна мая

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае.

Ты часта праходзіш ка мне, як сон,
Хмараю прыплываеш,
Птушкай садзішся на ціхі клён,
Звонкім дажджом ападаеш.

Тады ўспамінаецца ўсё да драбніц,
Што звязана з родным краем,—
Як жыта шуміць, як агонь зарніц
На дне азёр дагарае.

Як летам спякотным за днямі дні
Ішлі па іржышчы калючым...
Мы ранілі ногі аб камяні,
І нам не было балюча.

І не было нічога ярчэй
За сонца на родным небе,
І не было нічога смачней
Матчынага хлеба.

Вада прыдарожнага ручая
Была саладзей за мёд наш...
Краіна мая, маці мая,
Лёс твой цяжкі і гаротны.

Топча, катуе тваю зямлю
Вылюдак ашалелы.
Я кроў да апошняе кроплі пралью,
Каб толькі табе палягчэла.

Ні славы, ні скарбаў я не хачу.
Мне б толькі прыйсці непрыкметна,
Зямлю тваю пад нагамі адчуць,
Надыхацца свежым паветрам.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце прыказкі і прымаўкі і скажыце, якой тэмай яны аб'яднаны. Растлумачце правілы чытання выдзеленых слоў.

Адважны **нідзе** не загіне. **Адвага** не **знявага.** Адвага **ці** мёд **п'е,** ці кайданы трэ. **Смелы** знойдзе там, дзе **баязлівы** згубіць. **Добраму** малайцу і стракатая кабыла міла. **Часам** малы **вялікага** зваюе. Ад жару і камень **трэсне.** Абарона не **забарона.** У страха вялікія **вочы.** Лепш быць зухлівым, **чым баязлівым.** Адважны не баіцца **няўдачы.** Думка п'е ваду, а адвага не **хоча** і мёду. Ад **баязні** мала **прыязні.**

2. Спішыце тэкст, растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

Па **меры** таго як паглыбляліся **ў размяшчэнне** ворага, наступаць станавілася **цяжэй.** Хоць **рушылі** амаль адразу за артылерыйскімі выбухамі, якія, здавалася, **змяталі** на шляху **ўсё жывое** і **нежывое,** вораг **яшчэ спрабаваў утрымацца.** Калі выбухі аддаляліся, **гітлераўцы,** якім пад бетоннымі столямі і **тоўстымі** накатамі пашанцавала выратавацца, **выпаўзлі** наверх і секлі з **кулямётаў** і **аўтаматаў...**

На адзін такі заслон **наскочыў** узвод Праворнага. Кулямётная **чарга ўдарыла** раптам так блізка, што Юра ледзь **управіўся** кінуцца на зямлю.

Да **ўсяго** вакол пачалі рвацца міны. **Прыслухоўваючыся** мімаволі да іх посвісту, Юра **стараўся** асэнсаваць сваё **становішча.** Што з ім, ці не паранены? Не, здаецца, пакуль абышлося... Што з яго байцамі? **Жывыя** яны? Дзе яны **цяпер?**

### Тлумачэнне новай тэмы:

### Правапіс д—дз, т—ц

1. Параўнайце пары слоў беларускай і рускай моў:

| | |
|---|---|
| вада — у вадзе | вода — в воде |
| каманда — на камандзе | команда — по команде |
| работа — на рабоце | работа — на работе |
| рота — у роце | рота — в роте |
| куст — кусцік | куст — кустик |

**Правіла.** У беларускай мове цвёрдым зычным **д, т** адпавядаюць мяккія **(дз)', ц',** якія на пісьме перад галоснымі **е, ё, і, ю, я** перадаюцца літарамі **дз, ц:** *сады — садзік, газета — у газеце, павяду — павядзе, пяхота — у пяхоце.*

2. Параўнайце напісанне ў беларускай і рускай мовах слоў іншамоўнага паходжання:

тэлефон — телефон
тэатр — театр
дэманстрацыя — демонстрация
інстытут — институт
дэпутат — депутат
тэлеграма — телеграмма
дысцыпліна — дисциплина

Такім чынам, бачым, што ў большасці пазычаных слоў беларускай мовы зычныя **д** і **т** цвёрдыя: *дэлегат, тэлевізар, дэманстраваць.*

Аднак у словах іншамоўнага паходжання перад суфіксамі **-ін, -ір, -ёр, -еец, -ейск-, -ік** пішуцца **дз, ц:** *каранцін, камандзір, камандзіроўка, манцёр, гвардзеец, гвардзейскі, канверцік.*

### ЗАМАЦАВАННЕ.

1. Прачытайце тэкст, растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

Вось-вось пачнецца бітва. Яна, напэўна, **будзе** нялёгкай.

Гэта **будзе** першы бой, у які капітан **павядзе** не адну роту, а цэлы батальён. Аляксей кіраваў батальёнам на маршы, але **весці** бой батальёнам яму яшчэ не даводзілася.

А бой — гэта выпрабаванне. Экзамен. **Цяжкі** экзамен. **Ці** справіцца ён? Ці **хопіць у яго ўмельства і вопыту? Галоўнае — трымаць** пад прыглядам усе роты, сачыць за ўсімі, **накіроўваць** іх... Правільна **выбраць** месца для асноўнага ўдару... Каб не памыліцца ў **чым-небудзь,** зберагчы **людзей** і не **згубіць** машын.

2. Змяніце словы *народ, жыта, завод, канцэрт, горад, гарод, флот, білет, кулямёт* так, каб замест **д** і **т** былі **дз** і **ц;** запішыце іх.

3. Напішыце па-беларуску наступныя словы: гардероб, мелодия, декорация, аплодисменты, студент, диктор, интернат, факультет, репетиция, демократия, конституция.

4. Назавіце вядомыя Вам словы з вайсковай тэрміналогіі, якія пры напісанні падпарадкоўваюцца правапісу **д—дз, т—ц.**

### Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

**Сваяцкія і іншыя адносіны чалавека**

Родственник — сваяк
родители — бацькі
мать — маці
мама — мама
мамочка — мамачка
отец — бацька
папа — тата
папочка — татачка
бабушка — бабуля, бабка
прабабушка — прабабка
дед — дзед
дедушка — дзядуля
прадед — прадзед
сын — сын
сынок — сынок, сыночак
дочь — дачка
доченька — дачушка
внук — унук
внучек — унучак
внучка — унучка
сестра — сястра
сестричка — сястрычка
двоюродная сестра — стрыечная (дваюрадная) сястра
брат — брат
братишка (маленький братик) — брацік
братец — браток, братка
двоюродный брат — стрыечны (дваюрадны) брат
невестка — нявестка
зять — зяць
жена брата — братавая
жена мужниного брата — ятроўка
деверь — дзевер (мужаў брат)
муж сестры, шурин — швагер
сестра жены — швагерка
мачеха — мачаха, мачыха
отчим — айчым
тёща — цешча
тесть — цесць
свекровь — свякроў, свякруха
свёкор — свёкар
предок — продак
потомок — нашчадак
жена — жонка
муж — муж
дитя — дзіця
деточка — дзіцятка
девочка — дзяўчынка
девушка — дзяўчына
девушка, достигшая брачного возраста — выданніца
мальчик — хлопчык, хлапчук
парень — хлопец
дядя — дзядзька
тётя — цётка
сват — сват
сватья — сваццця
жених — жаніх
невеста — нявеста, нарачоная
друг — сябар
подруга — сяброўка
любовник — каханак
любовница — каханка
мужчина — мужчына
женщина — жанчына
сосед — сусед
соседка — суседка

Звярніце ўвагу на асобныя расійска-беларускія адпаведнікі:

друг друга — адзін аднаго, адна адну, адно аднаго
дружить — сябраваць
любить (детей, работу) — любіць
любить (женщину) — кахаць
любовь — любоў, каханне
ухаживать за женщиной — заляцацца да жанчыны
ухаживать за ребёнком — даглядаць дзіця
женить (на к.-л.) — ажаніць (з кім-небудзь)
жениться (на к.-л.) — ажаніцца (з кім-небудзь)

**ПРЫМАЎКІ І ПРЫКАЗКІ**

Дорага не так татава хата, як сам тата. З сынам бібся, ды на кут грабіся, а з зяцем мірыся, ды за клямку бярыся. Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а што маладыя самі нажывалі. Прымачы хлеб сабачы. Са шваграм і на зайца не ідзі. Сват не сват, а чалавек свойскі. У каханкі смаляныя лаўкі.

**ЗАМАЦАВАННЕ**

1. Прааналізуйце словы і скажыце, якія з іх Вы ўжо ведаеце і якія Вам неабходна запомніць.

2. Выпішыце словы, з якімі Вы пазнаёміліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы.

3. Пабудуйце дыялогі з наступнымі выразамі.

* Ваша поўнае імя: прозвішча, імя ды імя па бацьку?
* Мяне завуць... Маё прозвішча...
* Можна мне звяртацца да Вас проста па імю (імені)?
* Учора сустрэў Вашу жонку, яна вельмі добра выглядае.
* Вы нарадзіліся на Беларусі?
* Адкуль Вашы бацькі?
* Яму споўнілася сорак гадоў.
* А колькі гадоў дасце Вы мне?
* Ён мужчына сталага веку, ён шмат старэйшы за Вас.
* Мы з Вамі равеснікі (аднагодкі).
* Ты вельмі рана ажаніўся.
* Ён ажаніўся з маёй сястрой.
* У Вас дзеці ўжо вялікія?
* У нас ужо дарослыя дзеці.

СКАЗАНА

# З НАГОДЫ 100-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

**Доўгі час Максім Гарэцкі заставаўся пісьменнікам напаўзабытым і малавядомым. Расстраляны паводле прысуду так званай «тройкі» 10 лютага 1938 г. (Вятка), кінуты ў безыменную магілу, ён надоўга сышоў у цень. Імя пісьменніка было выкраслена з навучальных праграм і даведнікаў, а на творы накладзена табу. Толькі пагартаўшы пажоўклую перыёдыку, можна было натрапіць на ягоныя рэцэнзіі, артыкулы, апавяданні, ды яшчэ выцягнуць з пылу на гарышчы «Гісторыю беларускае літаратуры», «Хрэстаматыю беларускае літаратуры», слоўнікі. На шчасце, рукапісы Гарэцкага ацалелі. Былі адшуканы, а пасля рэабілітацыі ў 1958 г. і апублікаваны (на жаль, з купюрамі) яго аповесць «Камароўская хроніка» (1963), раман «Віленскія камунары» (1967), многія апавяданні, перавыдадзены драматургія і публіцыстыка. Даследчыкам адкрыўся вялікі мастак: глыбокі і шматгранны, самабытны і непаўторны, з прыцягальнай ідэяй нацыянальнага адраджэння. Сёння творчая спадчына Максіма Гарэцкага — каштоўны набытак беларускай культуры, наша класіка, да якой звяртаюцца ўсе.**



Другі дзень — «Гісторыя беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага.

Які быстры розум і грунтоўная эрудыцыя ў дваццаць сем — дваццаць восем гадоў! А праз дзесяць гадоў ён, акадэмік, быў у Вятцы **чорнарабочым**, упрыгаладзь начаваў на нейкім гарышчы, накрываючыся палітом...

Талковыя, смела-самастойныя ацэнкі, якіх, здаецца, і сёння не чуваць. Скажам, пра Багушэвіча і Цётку.

Што захацелася выпісаць, сям-там дазволіўшы сабе падкрэсленні:

«Цяжар формы і благой тэхнікі давіць думку... Звычайная проза, *набітая на рыфмаваныя канцы*». Пра вершы Андрэя Рымшы.

«Літоўскі Статут — гэта ёсць такая *несакрушальная скаліна*, той духоўны памятнік, які найлепш сведчыць аб славе і магутнасці нашай мовы і нашага нават звычайнага пісьменства».

«*Загнанае ў мужыцкую хату* беларускае слова магло падымацца ў 18 сталецці трошачку вышэй толькі ў уніяцтве. Амаль не ўсё беларускае ніжэйшае духавенства к канцу века было уніяцкае, не было таго сяла, дзе не было б уніяцкай царквы... Уніяцкія ж духоўнікі, хоць і дужа падпалі пад уплыў польскай мовы, цвёрда дзяржаліся мовы свае паствы, казанні і навуку ў школах выкладалі па-беларуску.

...Народ жа ў гэтую пару, церпячы лютую паншчыну, *жыў сваёю, неўміручаю і вечнасвежаю народнай творчасцю* ды крыху тою кніжнасцю ад 17-га сталецця, як гімны, псальмы, авантурныя казкі і фацэціі».

«Калі пры гэтым спомніць жыццё Тараса Шаўчэнкі, дык можна сказаць, што наш Багрым загінуў, *бо не вышаў на пана*, а наш Шпілеўскі загінуў, *бо не радзіўся мужыком*».

«...Рукі, пісаўшыя «Вянок», *сашчапіліся навекі*»,— кажа гісторык літаратуры. Таму і чытаецца.

«Дума робіць краснейшым кожны твор паэта. Спакойная дума павінна быць асновай творчасці. Халодны розум паэта не шкодзіць яго натхненню... Творчасць Багдановіча найлепей такім поглядам і характарызуецца. Яе прыкметы: 1) дума і 2) уменне, здабытае працай інтэлекту над сваім развіццём... Творчасць яго — праца мысліцеля, апранутая прыгожай славеснай шатай... Багдановіч прыкмецен агульналюдскім элементам. *Вершы яго гавораць нешта чалавеку ўсякай нацыянальнасці і ўсякага сацыяльнага стану*».

Словы Гарэцкага, што павінны былі б — некаторыя — быць не толькі ягонымі:

*Затхле, пазалежку, даражэнны, помала, цямнасць, на здаволь, нікаліва, будзька, бязворыцца, сходаць, аднавагам...*

І гэтая кніжка, месца якое ў музеі або ў бібліятэцы, трапіла да мяне з гарышча яшчэ аднаго чытальніка ды *будзькі* роднай думкі, вясковага настаўніка, які нядаўна памёр.

...Цудоўны раздзел пра Гаруна. Калі той вярнуўся з сібірскай ссылкі, дык — аўтарам бачылася гэта ці чулася ад блізкіх? — «з разбітым здароўем, худы, зжаўцелы, з пастаянным далікатна-тужлівым паглядам і *нейкай дакорнай маўклівасцю*»...

Янка БРЫЛЬ.

*Вечарыны*

# «Вінцэнт Дунін Марцінкевіч, гербу Лебедзь»

Зусім нядаўна ўзнікла Згуртаванне беларускай шляхты, што аб'яднала людзей са знакамітымі прозвішчамі, людзей, якія помняць сваіх продкаў, якія ў свой час належалі да беларускай арыстакратыі. 29 студзеня ў Доме літаратара Згуртаванне правяло першую радаводную літаратурна-музычную гасцёўню «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, гербу Лебедзь». Перад прысутнымі з расказам пра радавод заснавальніка новай беларускай літаратуры выступіў Генадзь Кісялёў.

8 красавіка 1840 года, папярэдне зрабіўшы буйныя пазыкі, В. Дунін-Марцінкевіч купіў у межавога суддзі Алойзія Сялявы невялікі фальварак Люцінка, што на Валожыншчыне, і жыў там да канца сваіх дзён. Пра гэты перыяд жыцця і творчасці Беларускага Дудара расказалі навукоўцы Вячаслаў Рагойша і Язэп Янушкевіч. Паэт Віктар Шніп прачытаў верш, прысвечаны В. Дуніну-Марцінкевічу, а пісьменнік Алесь Асташонак падзяліўся думкамі, што ўзніклі падчас экранізацыі ягонай п'есы «Камедыянт», дзе паказана жыццё аўтара «Пінскай шляхты».

На вечарыне прагучалі песні на словы В. Дуніна-Марцінкевіча ў выкананні артыстаў і кампазітара Зміцера Яўтуховіча. Вёў вечарыну старшыня ЗБШ Лявон Акаловіч.

## Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Антонімы** (ад грэчаскіх слоў *анці* — **'супраць'** і *оніма* — 'імя') — пары слоў з процілеглым значэннем (далёка — блізка; упоперак — уздоўж; Малы жук, ды вялікі гук).

*Паводле Г. К. Усціновіч.*

**Антон Канстанцінавіч АНТАНОВІЧ** (6.VI.1910, в. Казлы, цяпер Нясвіжскага раёна — 27.XII.1980), доктар філалагічных навук, выкладчык Віленскага універсітэта, А. К. Антановіч выявіў у архівах, бібліятэках, музеях і ў прыватных асоб 24 рукапісныя кнігі XVII — пачатку XX стагоддзя, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом. Вынікі даследавання іх пададзены ў кнізе «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма» (1968). У гэтай манаграфіі выкладзена і распрацавана даследчыкам сістэма транслітэрацыі арабскага пісьма ў сучаснае беларускае.

*Паводле І. К. Германовіча.*

**Апісальная лінгвістыка** — галіна мовазнаўства, якая апісвае канкрэтную мову на пэўным этапе яе развіцця, вылучаючы яе з тэкстаў, створаных на гэтай мове. Зыходзячы з тэксту, апісальная лінгвістыка стварае карціну мовы. Для гэтага выкарыстоўвае шмат спецыяльных прыёмаў і методык. Вывучаючы тэкст, найперш трэба вывяць элементы, якія ў ім паўтараюцца: гукі, марфемы, словы, фразеалагізмы, граматычныя мадэлі сказаў і г. д.

Найбольш пашыранымі выніковымі працамі апісальнай лінгвістыкі традыцыйна з'яўляюцца граматыкі (што ўключаюць таксама фанетыку і словаўтварэнне) і слоўнікі.

*Паводле А. Я. Супруна.*

**«Аповесць пра Баву»** — папулярны ў сярэднявяковай Еўропе твор з серыі рыцарскіх раманаў і аповесцей. На нашу мову быў перакладзены з сербскага выдання XVI стагоддзя і лічыцца адным з лепшых перакладных помнікаў беларускай літаратуры. У «Аповесці пра Баву» найбольш поўна адлюстраваны граматыка і лексіка народнай беларускай мовы. Твор напісаны тыповым беларускім скорапісам канца XVI стагоддзя, захоўваецца цяпер у Публічнай бібліятэцы імя Рачынскіх у Познані.

*Паводле А. І. Жураўскага.*

**«Аповесць пра Трышчана»** — помнік беларускай пісьменнасці XVI стагоддзя, унікальная славянская версія сюжэта кельцкай легенды пра каханне рыцара Трыстана да ірландскай прынцэсы Ізольды. Захоўваецца ў адным зборніку з «Аповесцю пра Баву» ды іншымі тагачаснымі перакладнымі творамі. Яго адшукаў у 1842 годзе ў бібліятэцы Рачынскіх В. М. Бадзянскі, які вызначыў, што мова гэтых рыцарскіх аповесцей — «пісьмовая мова Вялікага княства Літоўскага ў лепшы, квітнеючы час яго», у аснове сваёй «мова тых русаў, якія жывуць паміж Прыпяцяю, вытокамі Нёмана і Дняпром».

*Паводле Т. М. Судніка.*

# У падняволлі маскоўскім «у нас нічога не будзе»

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1)*

льным беларускім героем Канстанцінам — (паводле дакументаў — Вікенціем) Каліноўскім мы не толькі адчуваем напружаны пульс падзей таго часу, але і ў чарговы раз пераконваемся ў геніяльнай гістарычнай празорлівасці гэтага выдатнага сына нашай Бацькаўшчыны, да голасу якога яшчэ як варта і сёння прыслухацца.

Не маюць рацыі тыя, хто гатовы творчую спадчыну Каліноўскага спісваць у архіў з меркаваннеў, што яна, маўляў, не больш як здабытак гісторыі, што таму нібыта належыць толькі спарахнелай мінуўшчыне. Зусім не, бо за ідэямі Каліноўскага — будучыня!

Каб паслядоўна ўпэўніцца ў гэтым, дастаткова (з улікам цяперашніх рэалій. вядома) уважліва ўчытацца ў поўны тэкст сямі нумароў «Мужыцкай праўды», у ягоны зварот «Да беларускага люду» («Лісты з-пад шыбеніцы»). Зусім не выпадкова, што на мове арыгінала згаданыя дакументы ў нас ніколі не друкаваліся без купюр і фальсіфікатарскіх каментарыяў, што ўпершыню яны цалкам убачылі свет літаральна ўчора (часопіс «Маладосць», 1988, № 1). Зрэшты, нічога тут дзіўнага: палымяныя словы беларускага патрыёта Каліноўскага ані не пасавалі да ідэалагічных клішэ «гонару і сумлення нашай эпохі». Больш таго, яны, выходзячы з інтарэсаў працоўных, на парадак дня востра ставілі дзве асноўныя набалелыя грамадскія праблемы — зямлі і ўлады (у цяперашнім разуменні — уласнасці і свабоды), да практычнага вырашэння якіх па-людску мы і зараз, на жаль, яшчэ мала наблізіліся.

Прынята лічыць, што паўстанне на Беларусі пачалося 1 лютага 1863 года, калі Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі выдаў у Вільні першы свой маніфест. У адпаведнасці з ім тутэйшыя сяляне, усе іншыя саслоўі абвяшчаліся вольнымі і роўнымі з патомнай шляхтай, землеробы бясплатна атрымлівалі ва ўласнасць тыя памешчыцкія і дзяржаўныя землі, якімі напярэдадні карысталіся, а беззямельныя (кутнікі, парабкі, адстаўныя салдаты і інш.) за ўдзел ва ўзброенай барацьбе з царызмам павінны былі надзяліцца трыма моргамі зямлі (крыху больш за 2 гектары), усе законы расійскага ўрада скасоўваліся. Як бачым, гэты дакумент — прагрэсіўны для таго часу. Дарэчы, адзін з друкаваных экземпляраў яго, замацаваны пячаткай віленскай рэвалюцыйнай улады, захоўваецца ў Цэнтральным Дзяржаўным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь у г. Менску. Але ёсць у маніфесце асобныя моманты, якія насцярожваюць: наш родны край названы там «зямлёй польскай, а не маскоўскай». Калі другая частка цытаты — бясспрэчная рэч, то першую можна разглядаць толькі ў якасці часовай, вымушанай уступкі настойлівым дамаганням шавіністычна настроеных польскіх рэвалюцыянераў, якія ў так званую «Вялікую Польшчу ў межах 1772 года» гвалтоўна, ні ў кога не пытаючыся, уключалі і адвечныя беларускія землі. Знамянальна, што подпіс К. Каліноўскага на маніфесце адсутнічае.

Ды і як жа ён мог падпісацца пад гэтым, бо яшчэ задоўга да маніфеста ў «Мужыцкай праўдзе» (№№ 1—6 выйшлі ў ліпені-снежні 1862 года) чытаем: «Мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць». У звароце «Да беларускага люду» Каліноўскі прама называе ўсю зямлю Бацькаўшчыны «мужыцкай» і «нашай»... У трэцім нумары «Мужыцкай праўды» сустракаецца просты, як усё сапраўды вялікае, афарызм: «Чалавек вольны, калі мае кусок сваёй зямлі». Такім чынам, праблема ўласнасці звязвалася Каліноўскім у непарыўнай узаемазалежнасці з праблемай свабоды (улады).

Аб найважнейшых гістарычных прычынах бядоты і жабрацтва свайго народа Каліноўскі ўжо ў першым нумары «Мужыцкай праўды» сказаў вычэрпна і ясна: на «маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а здзерства і глуму над намі хочуць». У апошнім, перадсмяротным сваім слове да беларусаў гэта ягоная думка прагучала яшчэ больш акрэслена і выразна: «Як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва... адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу... Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывем шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе».

Застаецца пашкадаваць, што ў дачыненні да мудрых слоў К. Каліноўскага пашыранае выслоўе «няма прарока ў сваёй Айчыне» дагэтуль у нас пакуль не пахіснулася.

Мар'ян ВІЖ.

*Рэха*

# Забойцы — «інтэрнацыяналісты»

Дэзерцірствы здараюцца ў розных арміях, але факт, што найбольшая іх колькасць усё ж там, дзе няма нацыянальнай згуртаванасці вайскоўцаў, іх добраахвотнага імкнення аберагаць сваю радзіму і яе гонар. А вось дэзерціры-злачынцы ў армейскай вопратцы якраз часцей бываюць з «інтэрнацыяналістаў», якія не шкадуюць нічыіх жыццяў, а толькі ўласныя шкуры. Новы такі яскравы прыклад прыводзіць карэспандэнт газеты «Известия» (1993, № 32) у матэрыяле «Дэзерціры пачалі забіваць». Паведамляецца, што салдаты збеглі з Казахстанскай арміі. Значыць, казахі? Заявіліся ў саўгас «Красивинский» Тургайскай вобласці да бацькоў. Пілі, гулялі. Адчулі патрэбу ў грашах, накіраваліся са зброяй на чыгуначны паўстанак, там натрапілі на прыбіральшчыцу мясцовай школы казашку Шалпан Ахметаву з трыма дзецьмі. Усю гэтую сям'ю абрабавалі і бязлітасна забілі. Дзякаваць Богу, бандытаў праз некаторы час злавілі. Па нацыянальнай прыналежнасці імі аказаліся — казах, рускі, малдаванін і ўдмурт. Такі вось жудасны «інтэрнацыянал».

Л. М.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Выдатнымі прадстаўнікамі позняга рамантызму ў нямецкай паэзіі былі Адальберт Шаміса (1781—1838) і Людвіг Уланд (1787—1862), шмат вершаў якіх зрабіліся народнымі песнямі.

*Адальберт ШАМІСА*

## Замак Банкур

Далёкі час, паўзабыты
У снах устае ўначы.
Дзяцінства я ўспамінаю,
Сівой галавой трасучы.

Зноў бачу я змрочны замак
Праз дрогкую дымку год,
Знаёмыя вежы, байніцы
І мост ля высокіх варот.

Ільвы з герба радавога
Глядзяць, стаіўшы тугу.
Вітаю старых знаёмых,
На замкавы двор бягу.

Там сфінкс ляжыць каля студні,
Смакоўніца цягнецца ўвысь.
Я там, за вакном гэтым, марыў
Упершыню калісь.

Іду я ў капліцу замка,
Дзе продкаў шляхетных прах,
Дзе зброя старая на сценах
Напомніць аб даўніх гадах.

Як мне прачытаць там пісьмёны? —
Кладзецца на іх імгла,
Хаця скрозь пярэстыя шыбы
Плывуць струмені святла.

Гняздо маіх продкаў існуе
Адно ў лятунку маім:
Аратага плуг даўно ўжо
Праклаў баразну на ім.

Будзь, родная глеба, ўрадлівай,
Цябе бласлаўляю й люблю,
Ды тройчы той плуг бласлаўляю,
Што гэту арэ зямлю.

І ліру сваю бяру я:
Іграй, мая ліра, іграй;
Пайду я з табой па свеце,
Спяваючы, з краю ў край.

**Пераклад з нямецкай Аляксея ЗАРЫЦКАГА.**

*Людвіг УЛАНД*

## Віно і хлеб

Водар поля! Сэрца рада
Сведкам быць жывой красы.
Спеюць гронкі вінаграду,
Наліліся каласы.

Малатарня загрукоча,
Пойдзе ў жорны навіна.
Сок з-пад прэса забулькоча
Песняй хмельнага віна.

Гаспадыня-чараўніца
Мне пагляд пяшчотны шле.
Золатам віно іскрыцца,
Хлеб пануе на стале.

**Пераклад з нямецкай Уладзіміра ПАПКОВІЧА.**

*Чыталі?*

# «Тэатральная Беларусь»

Выйшаў першы нумар часопіса «Тэатральная Беларусь». Ён адкрываецца драмай у 5 карцінах «Чужыя грошы» Уладзіміра Бутрамеева.

Ці хочуць беларусы быць нацыяй? Ці ім усё роўна, кім быць — народам ці насельніцтвам — змешаным лесам, без сваёй гісторыі, культуры, мовы? Над гэтымі пытаннямі разважае ў сваім артыкуле «Нацыянальная драма» пісьменнік Яўген Міклашэўскі.

**Ала** Савіцкая ў артыкуле «Леташняя пабудка ў драматургіі» аналізуе п'есы, якія прыйшлі да чытачоў і гледачоў за мінулы год. А іх было не так і мала: «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «Жартаўлівы Пісарэвіч» Максіма Гарэцкага, «Няскончаная драма» і «Заручыны Паўлінкі» Ф. Аляхновіча, «Жывая вада» і «Дудка-самагудка» З. Дудзюк, «Драўляны Рыцар» С. Кавалёва, «Кветкі над ліўнем» І. Сідарука, «А як жа Непаседа?» Г. Каржанеўскай і іншыя.

«Як жа здарылася, што нашы ўчарашнія высакародныя намкненні сталіся тымі намерамі, якімі вымашчана дарога ў пекла?» — такім пытаннем канчаецца артыкул Генадзя Пашкова «Гандлярны дух мараль асіліў?..».

Ларыса Алексютовіч расказвае пра Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі, Вераніка Козел — пра новы спектакль «Звон — не малітва» І. Чыгрынава, што апошнім часам ідзе ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, а Таццяна Аляксандрава — пра спектакль «Майстар і Маргарыта» ў ДАВТ Беларусі.

Чытачоў часопіса чакае інтэрв'ю Васіля Кошаля з рэжысёрам маладзечанскага лялечнага тэатра «Батлейка» Сяргеем Юркевічам «Выхаваць гледача». Да 110-ай гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа друкуюцца ўспаміны Данілы Міцкевіча, Валерыя Мазынскага, Зінаіды Канапелькі, Іосіфа Дорскага, Паўла Малчанава, Рыгора Шырмы, а таксама нататкі А. Марціновіча пра святкаванне юбілею Я. Коласа ў Мікалаеўшчыне «На вёсцы цяпер... хораша».

У рубрыцы «Фота нагадала» Арсень Ліс расказвае пра Уладзіслава Галубка. Язэп Янушкевіч прапануе артыкул «На свой хлеб», які мае падзагаловак «З жыццяпісу чыноўніка Вінцэнта Марцінкевіча».

Група мастацтва Беларускай Энцыклапедыі працуе над выданнем «Тэатральная энцыклапедыя Беларусі». Пра старонкі будучай кнігі расказвае Дзіяна Стэльмах.

«Пастаўскія пералівы» — так назвалі свой артыкул Я. Адамовіч і І. Мамонька пра фальклорнае свята, якое мінулым летам праходзіла ў Паставах.

У часопісе шмат іншай інфармацыі з тэатральнага жыцця Беларусі.

**В. А.**

# «ПОЛАЦАК»

Выйшаў дзесяты нумар за 1992 год часопіса Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Кліўлендзе (ЗША) «Полацак».

Часопіс адкрываецца віншаваннямі з Новым годам і Калядамі. Са святочным словам да чытачоў звяртаюцца: Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, рэктар Менскай духоўнай семінарыі епіскап Навагрудскі і Лідскі Канстанцін, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў і сябры клуба «Спадчына». Тут жа друкуецца «Паэма пра нашых супрацоўнікаў» Самсона Самасуя, а таксама іншыя віншаванні.

«Полацак» працягвае знаёміць сваіх чытачоў з «Тапаграфіяй знаходак манет і аздоб» Віцебскай вобласці, якую падрыхтаваў Міхась Белямук. Павел Урбан прапануе працяг свайго артыкула «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвінаў».

«Насельніцтва беларускіх княстваў з старажытнейшых часоў знаходзілася ў пастаянных гандлёвых і палітычных зносінах паміж сабой, бо іх звязвала агульнасць гандлёвых шляхоў па Нёмане, Дняпры і іншых рэках, агульнасць культуры і рэлігіі, паганскай, а затым і хрысціянскай, сумесныя ваенныя дзеянні. У XII ст. пачаўся працэс далучэння некаторых летувіскіх зямель да беларускіх княстваў. На думку некаторых гісторыкаў, у XI—XII стст. літоўцамі, або ліцьвінамі, называліся славяне, якія жылі ў цэнтры Беларусі» — гэта радкі з «Кароткага нарыса гісторыі дзяржавы і права Беларусі» Язэпа Юхо. Раздзел, які друкуе «Полацак», называецца «Утварэнне Вялікага княства Літоўскага».

У рубрыцы «Згукі Бацькаўшчыны» змешчаны нататкі галоўнага рэдактара часопіса «Тэатральная Беларусь» Анатоля Сабалеўскага «На хвалі беларускага Адраджэння», у якіх расказваецца пра поспехі і праблемы беларускага тэатра, а таксама пра рэдакцыйныя планы тэатральнага часопіса. Пра багацці, што знаходзяцца ў нетрах Беларусі, гаворыць Радзім Гарэцкі ў артыкуле, які так і называецца: «Багацце нетраў Беларусі».

Часопіс працягвае знаёміць з «Уласнаручнымі паказаннямі Еазвітава Канстанціна Барысавіча», якія друкуюцца ў рубрыцы «З архіваў КДБ». Масей Сяднёў аналізуе творчасць Генадзя Бураўкіна. Пра святкаванне 75-ых угодкаў І Усебеларускага Кангрэса ў Менску піша Анатоль Старадарожскі.

«Таксама хацелася б, каб для нас, эміграцыі, былі распрацаваны спецыяльныя маршруты найбольш памятных беларускіх гістарычных і культурных мясцін, выпушчана аб іх спецыяльная літаратура. Гэта шмат у чым дапаможа эміграцыі пазнаёміцца з Бацькаўшчынай, завязаць добрую і цесную лучнасць з беларускім грамадствам» — такімі пажаданнямі канчаюцца нататкі Кастуся Калошы «Чатырнаццаць дзён па Беларускаму часу».

У рубрыцы «Памяць зямлі» часопіс дае храналогію свят, якія былі адзначаны беларусамі свету ў мінулым 1992 годзе.

**В. А.**

## • • • Леаніду Шчамялёву — 70 год • • •



Жывапіс народнага мастака Беларусі Л. Шчамялёва — гэта глыбокі роздум аб сённяшнім і мінулым роднай Бацькаўшчыны, аб месцы чалавека ў гісторыі і сучасным свеце, роздум, да якога аўтар запрашае свайго гледача. Карціны юбіляра добра ведаюць не толькі на Беларусі, але і ў Балгарыі, Канадзе, Фінляндыі, Германіі, Іспаніі.

**НА ЗДЫМКУ: Леанід Шчамялёў у сваёй майстэрні.**

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА. Белінфарм.**

# З размоўнікам у Польшчу

**«Беларуска-польскі размоўнік» (аўтар Анатоль Клышка), выдадзены летась у выдавецтве «Вышэйшая школа» ў Менску, спадзяёмся, стане вельмі добрым дарадчыкам для тых, хто збіраецца наведаць суседнюю Польшчу і затрымацца там на нейкі час. Размоўнік уключае шэраг пытанняў і адказаў, зваротаў і выразаў, якія дапамогуць людзям паразумецца ў розных сітуацыях, звязаных з побытам у Польшчы. Асноўную частку кнігі складаюць пытанні і адказы, якія грунтуюцца вакол пэўных тэм: надпісы, шыльды, пашпартныя звесткі пра асобу, найбольш ужывальныя звароты, лічэбнікі, адзінкі часу, меры, вагі, колеры, гасцініца, магазіны, падарожжа, кіно, тэатр, пошта, тэлеграф, здароўе, адпачынак, культурнае жыццё, спорт, экскурсія. Каб размову можна было неяк пашырыць або больш канкрэтызаваць, у кожнай тэме пададзены яшчэ дадатковыя спісы слоў.**

**«Разумнай галоўцы досыць два слоўцы» — пад такой назвай у канцы размоўніка змешчаны шэраг фразеалагізмаў, народных прыказак і прымавак.**

**Што датычыць польскага вымаўлення, то, каб пазбегнуць пэўных цяжкасцей, у размоўніку даецца транскрыпцыя над польскім тэкстам беларускімі літарамі.**

**Размоўнік будзе добрым дапаможнікам студэнтам філфакаў ВНУ, якія вывучаюць польскую мову, а таксама тым, хто імкнецца самастойна авалодаць польскай гутарковай мовай.**

**Л. Б.**

